Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 2 разы ў месяц)

№ 8 (14) | 24 САКАВІКА. | 1928 г.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Гэгманская вуліца № 4, кв. 16.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 месяц: 80 гр. на 3 месяцы: 2 зл. 00 —

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыту.

## „ПАСЬЛЯ БОЮ"

Выбары скончыліся...

Як пасьля сражэньня падлічываюць забітых, зраненых, захопленых у палон, так цяпер усе партыі, групы і блёкі падлічываюць адваёваныя ці, наадварот, страчаныя мандаты свае і сваіх працаўнікаў, абгаварываюць прычыны сваіх перамогаў ці, наадварот, паражэньняў, разважываюць свае памылкі, ці выйгрыщы, робяць вывады і пляны надалейшае.

Спрабуем і мы зрабіць падрахункі нашае выбарнае справы.

У Сойм прайшло, як ведама, Беларусаў ад Блёку Нацыянальных Меншасьцяў чатыры: адзін (Ярэміч) з „лісты паньствовай" і трох (Каруза, Стэповіч, Юхневіч)—з Сьвянцянскага вокругу. Ад іншых вакругоў з блёку не прайшло ніводнага. Гэты вокруг, такім чынам, аказаўся для нас найлепшым. Ня горшым быўбы для нас і вокруг Лідзкі. 71.000 уневажненых галасоў, з якіх львіная доля выпадае на „18", ясна гаворыць за тое, што ў гэтым вокрузе, калі-б ня быў уневажнены наш 18-ы сьпісак, дык там на долю блёка прыйшлося-б, ня меньш чатырох мандатаў!

Аб гэтым аднак можна толькі

шкадаваць, але, пакуль нашая скарга не разгледжана і справа выбараў у Лідзкім павеце не адменена, няма чаго і гаварыць.

Уневажненьне нашай лісты добра скарыстаў Янка Станкевіч, які на гэтай справе зарабіў аж два мандаты. Цікава пры гэтым тое, што, як чуваць, два яго сябры па Лідзкаму сьпіску № 41, недзе згінулі, адзін нібы куды выехаў, а другі адмовіўся, ці змушаны быў адмовіцца, так-што пасьля Янкі Станкевіча ўваходзіць аж Мурашка, які стаяў на 4-м мейсцы. Бязумоўна, калі-б ня быў уневажнены наш сьпісак, столькі-б не галасавала за сьпісак Янкі, і большасьць тых асобаў, якія галасавалі за яго, аддалі-б свае галасы „васямнастцы“.

Наагул гаворачы Сьвянцянскі і Лідскі вакругі, з нашага пункту гледжаньня, паказалі найлепшую беларускую сьведомасьць і падгатаванасьць да выбараў.

Зусім неспадзяванымі зьявіліся для нас рэзультаты выбароў у Навагрудку. Праўда, мы і раней ведалі, што ў гэтым вокрузе найлепш зарганізавана «Грамада», і дзеля гэтага пры канкурэнцыі з ёй, не маглі спадзявацца на нашую перамогу. Гры мандаты на Наваградзкі вокруг гэта тое, чаго можна было заўсёды чакаць для «Грамады», але мы дужа і дужа здзіўлены, што тую самую лічбу галасоў атрымала і «адзінка». Нават і тое прывілеяванае палажэньне, якое займала гэтая партыя сярод іншых у часы выбараў, не давала магчымасьці спадзявацца на яе гэтакі пасьпех.

Калі выбары там былі і зусім правідловыя і будуць зацьверджаны, дык гэты пасьпех можна будзе вытлумачыць толькі тым самым законам, які пануе і ў фізыцы, — што кожны чын, кожная дзеяльнасьць выклікае ў такой самай меры і процідзеяльносьць: інтэнсіўная праца там «Грамады» выклікала такуюж працу і ўрадавай партыі, прычым яна-ж стварыла і тое, што частка насяленьня, запуганая арыштамі і працэсамі «Грамады», пайшла за жандовай партыяй.

Як бы гэта ня было, з нацыянальнага пункту гледжаньня для Беларусаў у гэтым вокрузе выбары прайшлі ня зусім дрэнна. Хоць сярод беларускіх партыяў «Грамада» і не належыла ў гэтых выбарах да таго абозу, да якога належалі партыі, уваходзячыя ў «Блёк», але ўсе-ж гэта Беларусы па нацыянальнасьці, і, калі яны ў Сойме і ня ўвайдуць у агульны Беларускі Пасольскі Клюб, дык усё-ж спадзяваемся, не здрадзяць беларускае справы.

Зусім беларусы асталіся без сваіх прадстаўнікоў у Сойм у шасьцёх вакругох: Віленскім, Гарадзенскім, Беластоцкім, Востраўскім, Берасьцейскім і Пінскім, пры чым, з гэтых вакругоў па Блёку прайшоў адзін (жыд, доктар Выгоцкі), а па іншым з гэтых пераліӵаных па Блёку нават не прайшоў зусім ніхто. Прычыны няўдачы Беларусаў і наагул Блёка ў гэтых вакругох былі розныя. У Віленшчыніе, праўда, мы і чакаць не маглі, што правядзем свайго кандыдата, бо па месту Вільні Беларусоў дужа мала, а па Віленскаму павету хоть яны і ёсьць, але ў падаўляючай большасьці гэта зусім спалянізаваныя каталіцкія масы. Толькі нядаўна яны патроху пачалі ў іншых мяйсцох прабуджацца і дахадзіць да нацыянальнай сьведамасьці, дзякуючы працы там беларускай каталіцкай «Хедэцыі». А напрыклад, у 1922 годзе каталікоў Беларусаў, там і ня чуваць было.

Для Блёку нацыянальных меньшасьцяў Віленшчына мела значэньне пастолькі, пасколькі там можна было спадзявацца на жыдоўскія галасы. Вось за што першае мейсца цэнтральным Камітэтам было уступлена ў Віленскім вокрузе Жыдам. Гэтае мейсца належала да іх яшчэ і пры выбарах у 1922 годзе, але тагды яны яго не ўзялі, бо падзялісіся ў Вільні паміж сабой. Цяпер, дзякуючы сваей лепшай арганізацыі, а таксама пры помачы іншых меншасьцяў, яны гэтае мейсца асталі.

У Горадні прычыны непасьпеху Беларусаў тая, што там дужа распаўсюджалася камуністычная прапаганда, дзеля чаго дужа многа Беларусаў, галасавала за камуністычны сьпісак № 13. Мы ня будзем на гэты раз палемізаваць з камуністычнай праграмай, але адзначым, што дзякуючы гэтаму падзелу, Беларусы ў Гародні ня ўзялі ні воднага мандату. Тагды, калі пры дружным галасаваньні і разам з Блёкам, дзе ідуць галасы і іншых меншасьцяў. мы маглі там мець аж двух прадстаўнікоў. У 1922 годзе мы правялі там аднаго (С. Барана).

Слаба паказаў сябе і Беластоцкі вокруг, дзе таксама Беларусы не далі ні воднага прадстаўніка. Там прычына была перад усім таксама ў падзеле паміж сабой Беларусаў, а другое — тыя рэпрэсыі, якія ўвесь час выбараў панавалі у гэтым районе. Усе нашыя арганізатары і інструктары на мяйсцох, аказаліся арыштаванымі і ня было каму правадзіць перадвыбарную працу.

У Бельшчыне і Піншчыне таксама першай прычынай быў падзел паміж сабой Беларусаў. Але тут трэба адзначыць і ясна выяўленую беларускімі масамі нацыянальную нясьведамасьць. Бельшчына, Піншчына, часткай Беласточчына — гэта такія мяйсцовасьці на Беларусі, аб каторых трэба сазнацца, што беларуская культура, беларускія газэты, беларускія культурныя і палітычныя працоўнікі да іх дахадзілі мала і рэдка. Дзеля чаго нават і чытаць пабеларуску большасьць насяленьня ня ўмее вярней сказаць, ня прывучылася. Вось дзеля таго, напрыклад, асабліва ў Бельшсыне, няспадзявана вялікі пасьпех мелі польскія партыі «Вызваленьне» (3) і P. P. S. (2). У Лідчыне, Сьвянцяшчыне, Наваградчыне, аб іх ўжо даўно добра ведае кожнае беларускае дзіцё і там можна спадзявацца, што ні адзін беларускі голас не пайшоў на гэтыя партыі, а тут відаць беларускі грунт крануты быў дужа мала, і сьведамасьць беларуская яшчэ стаіць на нізкай ступені.

Наагул аб гэтым цьвердзіць і большы ці меншы пасьпех на Беларусі «адзінкі».

Нарэшце ў Сойм прайшло па сьпіску Блёку чатыры (у 1922 г. — адзінадцаць) ды тры з Грамады, разам сем. Трудна далічыць да беларускіх галасоў двух прадстаўнікоў Янкі Станкевіча, бо яго здрадніцкая палітыка ў астатнія часы ў справе выбараў, нічога добрага Беларусам не абяцае...

Горшыя крыху, таксама чым у 1922 годзе, выйшлі выбары і ў Сэнат. Тады мы мелі там трох прадстаўнікоў (Багдановіч, Назарэўскі, Уласаў), цяпер толькі дзьвух (Багдановіч і Рагуля). Ня горш аднак, а нават яшчэ лепш прайшлі выбары па вокругам. Напрыклад, у Віленшчыне, лік галасоў, паданых за Бл к быў большы, чым у 1922 годзе (тады каля 41.000, цяпер каля 43 000 галасоў), ня гледзячы на тое, што цяпер з гэтым сьпіскам канкуравалі яшчэ два беларускіх сьпіска (40 і 39) ды яшчэ сьпісак расейцаў, якія ў 1922 годзе ішлі разам з намі. Пад-

лічка гэтых галасоў паказвае, што пры лепшых варунках і пры дружным галасаваньні можна было-б правесьці, калі ня трох, дык найменш двох сэнатараў аднэй Віленшчыне.

У Навагрудчыне прайшоў з Беларусаў адзін (Рагуля) як і ў 1922 годзе. Толькі з паньствовай лісты мы ня ўзялі ніводнага, але і тут амаль што не дасягнулі аднаго яшчэ сэнатара (як у 1922 годзе), бо там па Блёку прайшло толькі чатырох, а наш Беларус Беганскі стаяў на пятым мейсцы.

Якія-ж вывады мы павінны зрабіць з гэтай яшчэ аднэй выбарнай спробы?

Прыходзіцца ізноў тое-ж гаварыць, аб чым гаварылі ня раз і перад выбарамі. Для народа, які жыве ў нейкай дзяржаве як меньшасьць, няма большага няшчасьцьця, як падзел нацыянальнага фронту на групы Жывым прыкладам гэтага былі для нас Немцы ў час гэтых выбараў. Апрача маленечкай групкі сацыялістаў на Горным Шлёнзку, усе яны, як адзін чалавек, увайшлі ў блёк і як адзін чалавек дружна галасавалі за сваіх. У рэзультаце яны, складаючыя ў Польшчы меньшую меньшасьць чым мы, маюць у Сойме 17 прадстаўнікоў, калі мы маем толькі сем! А мы маглі-б мець 20!

Няма тут чаго жаліцца і на рэпрэсыі. Ніхто нікога ня можа змусіць падаць ня той нумарок, які ён хоча...

Пажывем, можа навучымся і мы.

Рэзультаты выбараў, як мы бачым, паказалі, што там, дзе было больш нацыянальнай сьведамасьці, там ня гледзячы і на рэпрэсыі, галасаваньне было лепшае. Адсюль відаць, што галоўнае сьведамасьць, пры якой і рэпрэссіі толькі яшчэ больш памогуць справе аб'яднаньня і спачэньня нацыянальных масаў.

**Сябра.**

# Бяз грунту

(Да пытаньня аб прававым і кананічным становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы). (Працяг).

Такім чынам, адмовіўшыся ад узаконенага прававога і ўзаконенага кананічнага становішча Праваслаўнай Царквы, наша афіцыяльная іерархія аказалася ў поўным сэнсе гэтага слова „бяз грунту“,—бяз грунту юрыдычнага і бяз грунту кананічнага.

Гэта ўперад за ўсё паставіла Праваслаўную Царкву і іерархію ў зусім залежнае палажэньне з аднаго боку ад сьвецкае улады, а з другога — ад тых „безотвѣтственных церковных кругов“, на якія яна, гэта іерархія, так цяпер жаліцца.

Колькі стацьцей можна было прачытаць у астатнія гады ў „Воскресном Чтеніи“ з такімі жалобамі: „нам не утерждают статута“, „ничего нѣт хуже безправнаго положенія“, „самое большее зло для Православной Церкви в Польшѣ,—это отсутствіе статута“, „лучше хотя какой нибудь статут, чѣм никакого“ і г. д.

Гэта ўсё праўда, але што Царква стала безпраўнай, у гэтым і ёсьць віна нашае афіцыяльнае царкоўнае ўлады. Адмовіўшыся ад былых законаў і кананаў і здаўшыся на „міласьць панскую“, на міласьць ураду з сваім „ні для каго не абавязкавым праэктам статуту“, яна забылася аб тым, што ўрады бываюць розныя і часта зьмяняюцца. Яна вяла перагаворы аб статуце з урадам Грабскага і ўжо здавалася, што справа зусім даходзіла да пэўных рэзультатаў, як раптам зрабіўся маёвы пераварот, і ўла-

да аказалася ў руках марш. Пільсудзкага і яго прыхільнікаў. Новая ўлацада іначай паглядзела на царкоўную справу. Ураду Грабскага, узгадаванаму на р.-каталіцкіх эндэцкіх ідэалах, падабалася тая манархічная падстава ў Царкве, якой прычыны быў „статут", выпрацаваны м. Дыанісіям. Па старай тр дыцыі ім лепш здавалася мець дачыненьня *з адным* мітрыпалітам, чым з цэлым царкоўным народам. Урад м. Пільсудскага, які сам імкнецца да „моцнай улады", наадварот, зусім не жадае поплеч з сабой мець такую самую „моцную ўладу" у аднэй асобе мітрапаліта, дзеля чаго яму зусім не падабаецца той манархічны строй, які правёў мітрапаліт і сынод у згодзе з урадам Грабскага ў сваім статуце. *)

Пачуўшы гэта, мітрапаліт пайшоў на ўступкі,—парашыў „опереться на церковную общественность" і ў самым пачатку студня 1927 году склікаў нейкі „суррагат Сабору" пад дужа доўгім назовам, але з „адваротна-прапарцынальным" гэтай даўжыне кананічным значэньнем: „Первое Собраніе Представителей Духовенства і Міран Сьвятой Польской Автокефальной Православной Церкви". Сабраньне гэтае скадалася з благачынных і царкоўных старастаў, выбраных... самім мітрапалітам!

Я ня буду доўга застанаўлівацца на гэтым сабраньні. Кананічную і жыцьцёва-практычную ацэнку яго, дужа добрую, у свой час зрабіў у расейскай газэце „За Свободу" вядомы яе супрацоўнік Тубярозаў. Але ўсё-ж не магу не сказаць некалькіх кароткіх слоў.

Які аўтарытэт і якую грамадзянска-царкоўную вагу магло мець гэтакае „Сабраніе"? Ніхто з гэтых скліканых айцоў і міран ня чуў за сабой голасу царкоўнага народу, бо *ніхто з іх ня ехаў на сабраньне як упаўнамочаны гэтым народам.* Іх склікаў мітрапаліт, і яны ехалі ў Варшаву не як пасланцы царкоўнага народу, але толькі як благачынныя,—як „пазваныя службова чыноўнікі" да свайго „начальства",—як госьці, якім, ведама, „нялоўка спрачацца з гаспадаром".

*) Так у сваім часе моцнай уладзе у асобе Пятра Вялікага не падабалася моцная царкоўная ўлада патрыарха. (Гэтым мы аднак ня сцьверджываем таго, што і наагул улада Пятра В. зусім падобная да ўлады м. Пілсудзкага)

Гэта так яскрава выявілася на старонках тэй самай газэты „За Свободу"; дзе ў размове з яе супрацоўнікам адзін з благачынных, пазваных на з'езд, на пытаньне: „як сябе чуеце на Сабраньні", адказаў: „так як можна чуць пры мітрапаліце", а адзін з міран зьмясьціў пісьмо, дзе ён, як добры госьць, шчыра дзякуе за гэтае Сабраньне, бо на ім... „дужа добра карміліˮ. Толькі і ўсяго.

Было б сьмешна калі-б ня было так сумна.

Але-ж...

Але-ж і гэтакае Сабраньне ўсё-ж лепш, як ніякае. Хоць і маленькі праяў царкоўнасьці, хоць і маленькае імкненьне да яе, але і тое не асталося бязплодным па слову Хрыстову: „дзе два, ці тры зьбяруцца ў Маё імя, там і Я сярод іх". І там, на гэтым сабраньні, знайшоўся чалавек, за плячыма якога стаяла, хоць і не сучасная „царкоўная абшчэсьцьвеннасьць", але стаяла „абшчэсьцьвеннасьць" даўнейшая. Гэта быў пратаіерэй Тэодоровіч,—*былы сябра Маскоўскага Садору, выбраны тады народам Варшаўскай епархі.* Гэты чуў за сабой, хоць і даўнішні, голас Царквы і гэта адразу сказалася на Сабраньні, дзе ён выступіў з гарачай прамовай аб сабор-насьці. Айцы і міране, сябры Сабраньня, ня можна сказаць, каб дужа сьмела, але ўсё-ж падтрымалі крыху прат. Тэодаровіча. На Сабраньні было адзначана, што „в проектѣ „Статута" *нѣт спеціальных указаній на Собор, как на высшую законодательную инстанцію Польской Православной Церкви,* а между тѣм соборность является отличительной чертой жизни и уклада Православной Церкви, как вездѣ, *так и въ Польской Автокефальной Православной Церкви*". Дзеля гэтага пастаноўлена зрабіць у выпрацаваным тым самым Сынодам „Положеніи" аб унутраным устроі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, якое зьяўляецца асновай для самаго Статуту, такую дабаўку: „В силу сего в Польской Автокефальной Православной Церкви высшая законодательная власть принадлежит Помѣстному Церковному Собору, періодически в определенныя сроки созываемому митрополитом Варшавским и всея Польши из епископов, духовенства и мірян и дѣйствующему согласно с вышеуказан-

ными кононами и духом этих кононов".*)

Такім чынам Сынод, утвараючы сваё „Положеніе"—аб кананічных падставах і „Статут" — аб правэвым становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы, *„забыўся зусім нават і ўпамянуць у гэтых актах аб Саборы*, як вышэйшей царкоўнай уладзе і толькі скліканае праз яго „Сабраньне" духавенства і міран аб гэтым яму напомніла! А яшчэ ў гэтага Сыноду хапае духу сказаць, быццам „саборнасьць" зьяўляецца „отличительной чертой уклада и духа" Польскай Праваслаўнай Царквы!

Гэта значыць, што калі-б у сваім часе улада Грабскага прызнала і прыняла „Статут" Сыноду, дык Праваслаўная Царква ў Польшчы аказалася-б *без права склікаць Сабору*, бо на гэта „нѣт специальных указаній в Статутѣ!"

Так „старалася" аб „правовом" становішчы Праваслаўнай Царквы ў Польшчы гэтая іерархія!

Няма нічага тады дзіўнага, што ў рэзультатах гэтакіх ліцэмерных, ня шчырых стараньняў і стварылася тое палажэньне, якое сама гэтая царкоўная ўлада характэрызуе такімі славамі:

„Азбучной истиной является утвержденіе, что худшим положеніем бывает неопредѣленность. Неопредѣленность создаетъ неувѣренность, неясность; способствует произволу и другим проявленіям злой воли, парализует осмысленныя волевыя дѣйствія, убивает инициативу і т. д. Увы, *это печальное состояніе неопредѣленности и неустойчивости уже в теченіе цѣлаго ряда лѣт переживает наша Православная Церковь в Польшѣ*. Ея существованіе и дѣятельность в значительной мѣрѣ *опредѣляется лишь нормами какого то своеобразнаго обычнаго права, выработаннаго случайно, иной раз путем довольно продолжительной разнотипной практики, другой раз вслѣдствіе совершенно случайных и непредвидѣнных обстоятельств*".

Як-жа назваць гэтае становішча, як ня тым назовам, які мы паставілі ў загалоўку нашай стацьці: „Бяз грунту".

Але-ж мы відзім, што імкненьне выйсьці з гэтага бязгрунтовага становішча ў Сынода выявілася зусім ня ў шуканьні ўзапраўднага кананічнага грунту, а ў шуканьні павялічэньня сваей улады і сваей безадказнасьці перад Царквой, — у выключэньні саборнага духу з царкоўнага заканадаўства (Статут).

(Працяг будзе).

**В. Багдановіч.**

*) Глядзі „Первое Собраніе Представителей Духовенства и Мірян Сьвятой Польской Автокефальной Православной Церкви 10—12 янв. 1927 г. в Варшавѣ". Варшава. Синодальная типографія. 1927 г. Стр. 5.

# Эўропа і С. С. С. Р.*)

Пасьля таго, як кучка камуністаў запанавала ў б. Расеі, перед Эўропай стала пытаньне, ці магчыма існаваньне камуністычнай дзяржавы паміж дзяржаваў капіталістычных? Ведамы сацыолаг Макс Вэбэр і інш. сваімі досьледамі даказвалі, што сьвет ніколі не кіраваўся адналькавымі сыстэмамі — палітычнай, сацыяльнай і гаспадарчай. Так, калі ў аднэй дзяржаве існаваў абсалютны манархізм, у суседкі яе — сьпелы манархізм; была і няволя, і адначасна свабода працы, быў строй гаспадарскі атавізм і разам свабода гаспадараваньня, былі і прыгоны і вольнае вядзеньне гаспадарак, прыхадзілі новыя формы, але і старыя яшчэ доўга трымалі ў сабе жывучасьць і г. д. Дык складаліся погляды, што ня выключаецца магчымасьць існаваньня на разграні Эўропы і Азыі камуністычнае дзяржавы, калі камуністычны строй здольны будзе до жыцьця, што могуць даказаць толькі практычныя досьледы.

За дзесяцёхгадовы час камунізм не даказаў сваей жыцьцяздольнасьці, але гэты час асьвятліў некатарыя цёмныя старонкі камунізма і абмяняў ролі Эўропы з С. С. С. Р. Зьмяніліся погляды

*) Гэты артыкул напісаны для „Прав. Бел." адным загранічным прафэсарам, знатаком жыцьця С. С. С. Р.

і выявілася, што Эўропа цяпер меньш баіцца пераліву камунізма к сабе, чым бальшавікі баяцца праніканьня капіталізму ў савецкую сыстэму. Наступіла другая фаза, якую С. С. С. Р. цяпер перажывае. Пытаньне аб тым, ці можа камуністычная дзяржава істнаваць паміж капіталістычных дзяржаваў, ад якіх не пераставаў і не перастае карыстацца пазычкамі, пакупнымі крэдытамі, абменам тавараў і г. д. дзеля падтрыманьня свайго камуністычнага ладу.

Баючыся капіталізму, без якога ня могуць абайсьціся, бальшавікі наўмысьлі робяць дзюркі ў сваім камуністычным апараце, каб капіталізм іх пранікаў, але замаскавана, каб ніхто гэтага не бачыў. Ведама, што казённы манаполь на таргоўлю з заграніцай зьяўляецца для С.С.С.Р. так сама важным палітычна-эканамічным фактарам, як ў іншых дзяржаваў падатная сыстэма. Дык калі савецкая ўлада дае на часьць гэтай манаполі некаторае права і прыватным асобам, гэтым яна ня толькі бье сама па сябе, але і падрывае веру ў іншых.

Аднак у нядаўна заключанай гандлёвай умове з Турцыяй значыцца, што прыватным асобам пазваляецца прывоз і вываз некатарага кантынгента тавараў. Грамадзяне С.С.С.Р. маюць права таргаваць імі... Гэта значыць гоняць прыроду праз дзьверы, а яна варочаецца праз вокны, значыць, што казеннага розуму не хапае і бяз прыватнаго нельга абыйсьціся. Гэтым „прыватным розумам" зьяўляецца, як ведама, так званыя „Нэпманы" (гандляры), найбольш жыхары гарадоў, дзе так сама згрупаваны ўсе казённыя ўстановы. З прычыны манаполю цэны на ўсе тавары няміласэрна высокія як у казенных крамах, так і ў „нэпманаў"; сялянін ня можа купіць сабе ні крамнай адзежы, ні ботаў, ні іншых рэчаў. Горад цягне з сялян падаткі, купляе танна збожжа і г. д., але ў замен нічога не дае селяніну. Дык паглядзімо, як селяне рэагуюць на гэта і як адносяцца да савецкага апарату. Яны проста ня хочуць карміць гарадоў. Гарады не маюць дастатка правізыі, ім не хапае хлеба, цана на які стаіць вельмі высокая. Людзі дзень і ноч стаяць у калейках (хвастох) перад савецкімі крамамі, каб купіць чаго небудзь для яды. Тым часам пайкі зьменшаюцца, а цэны на прадукты растуць з кожным днем. Саветы перажываюць цяперака востры эканамічны крызыс, сягаючы глыбака да самага нутра і шырака на ўвесь С. С. С. Р.

Самаю цяжкаю праблемаю дла Савецкай улады зьяўляецца дабываньне прадуктаў ад сялян для галадаючага гарадского жыхарства (Аб вывозе зярна за граніцу ня прыходзіцца і гаварыць). „Совхозы" (камунальныя гаспадаркі) даўно збанкрутавалі і перасталі істнаваць, а сяляне прадуктаў не прадаюць, ды прста іх ня маюць; яны сеюць і садзяць толькі для сваей патрэбы. А калі часам хто і мае невялікі запас, дык хавае, баючыся каб ня быў зрэквіраваны. З-за гэтага ўзнікаюць мнагалікія працэсы проціў сялян, якія строга караюцца „за ўтайку прадуктаў". У апошнія часы бальшавіцкая ўлада, баючыся сельскіх паўстанкняў, стала плаціць за прадукты ўсё больш і больш высокія цэны, а сяляне ўбачылі ў гэтым упадак курса чырвонца. Нявера сялян у пэўнасьць курса рубля выклікала у прыгранічных з С.С.Р. дзяржавах спэкуляцыю рублем. Газэта „Сягодня" паведамляе, што ў Рызе (Латвія) 15 бальшавіцкіх рублёў можна купіць за адзін фунт ангельскіх штэрлінгаў, калі ў Маскве цана ім $1^1/_2$ фунта.

Насьледкам гэтаго Савецкая ўлада памышляе забараніць увоз у С. С. С. Р. сваіх рублёў, але так сама баіцца, каб гэтаю мераю не давясьці курс іх яшчэ да большаго паніжэньня. Адным словам „куды ня кінь, усюды клін". Ды яно інакш і быць ня можа, бо кіруюць народам у С. С. С. Р. найбольш чужынцы, засеўшы ў Крэмлі, не знаючыя жыцьця народаў, незнаючыя вёскі, яе абычаяў, традыцыі, псыхалогіі, жыцьцёвага стану і няхочучыя гэтага знаць. Яны па сваёй ідэалогіі інтэрнацыяналісты, якія ня любяць праявы нацыянальнага жыцьця, называючы яго „шавінізмам" хоць-бы праява была самага нявіннага характару і караюць за гэта. Ім трэба, каб чалавек адрокся ад сваей гісторыі, нацыянальнасьці традыцыі, радні, ні ў ва што і ніколі ня верыў, як толькі ім і слухаў іх. Ці-ж будзе такі інтэрнацыяналіст з III Інтэрнацыянала клапаціцца аб долі мужыка, каб мужыку лепш жылося, калі з мужыком ён нічым не зьвязаны? Ніколі. Для яго мужык пэтрэбны толькі як аб'ект для палітычных экспэрымэн-

таў, так як трус (кролік), ці морская сьвінка, служыць у хірургаў аб'ектам для экспэрымэнтаў мэдыцынскіх (для вівіссэкцыі і г. д.)

Ня будзем уваходзіць у разгляд камуністычных тэорыяў, якая з іх лепшая, ці горшая, — ці тэорыі тых, што цяпер правяць С.С.С.Р., ці іх апазыцыянераў, разагнаных правіцелямі па ўсіх кутках, так як калісь царская ўлада разганяла сваіх палітычных праціўнікаў, бо абедзьве гэтыя тэорыі, так як і ўсе папярэднія, нікуды нягожы.

Важным момантам у жыцьці бальшавізму зьяўляецца тая вакалічнасьць, што камуністычная партыя разламалася і што лік прыхільнікаў апазыцыі хутка расьце; расьце так сама лік і іншых незадаволеных камуністычнымі парадкамі, асабліва паміж сялянствам.

Пераходзячы да праблемы далейшага істнаваньня бальшавіцкай улады прыходзім да вываду, што як захопленьне ўлады, так і трыманьне яе пры помачы тэррору проціў волі народаў — ёсьць часовая эпізода, якая ня можа быць трывалай і доўгавечнай. За 10 гадоў дыктатуры кучкі людзей над масамі не мала было зроблена ўсякіх пробаў і экспэрымэнтаў, не мала праліта крыві і загублена нявінных людзей, не мала патрачана сілы, волі і энэргіі каб пабудаваць нейкі новы лад, новы парадак жыцьця, але ўсё дарма. Што сягоньня збудавалі, дык заўтра разкідалі. І так прайшло 10 гадоў! За 10 гадоў камуністы не даказалі сьвету, каб хоць адна з іх сыстэмаў была практычнай і трывалай, не патрафілі нават давесьці гаспадарчы стан С.С.С.Р. да нормы прадваеннай, тагды як іншыя народы, нават пераможанныя ў вайне, ужо даўно даваенны стан апярэдзілі.*). А цяпер, як відаць з апошніх спраўкаў, і той мізэрны гаспадарчы стан, які там трымаўся, ізноў пайшоў уніз.

Камуністы могуць пахваліцца толькі ўраджаем бяздомных, бязпрытульных дзяцей, заражаных сыфілісам і іншымі хваробамі. Яны тоўпамі падарожаць з места ў места і як шаранча на траву нападаюць на ўсё, што можна зьесьці ці ўкрасьці. Гэта іх дзеці. Што з гэтых дзяцей будзе, — ведае кожны. Гэтым узапраўды ні адна дзяржава ў цэлым сьвеце ня можа пахваліцца.

Дык калі хто, адзываючыся на дзесяцёхгадовае істнаваньне камуністычнай улады, прарочыць ей далейшае жыцьцё — ён мыліцца. Дзесяцігадовае істнаваньне С. С. С. Р. у камуністычнай вопратцы даказвае толькі магчымасьць такога істнаваньня паміж капіталістычных дзяржаваў, а ня інакш.

Гаворачы аб'ектыўна, ня можам абмінуць і аднэй „заслугі" старых камуністаў, гэта той, што яны трымаліся старога сацыялістычнага лозунга: „самаадзначэньня народаў", чым далі магчымасьць кожнаму народу загаварыць сваёй роднай мовай. Гэта рабілася не па іх добрай волі; мэта была зусім іншая, а іменна „ласкава паклікаць і зачыніць"*) Тагды, калі ня было іншага выхаду, яны мусілі так рабіць. Надарэмна новы камуністычны курс вінаваціць стары курс у слабасьці і каб паправіць „памылкі", напаўняе Салаўкі**) такімі „шавіністамі", як беларус Алехновіч і іншымі. Здаецца, што гэтым новы курс мыліцца.

У апошні момант С. С. С. Р. стаіць перад цяжкімі заданьнямі. Праблемы аправізацыі, фабрычнай прадукцыі, выкананьня работ, санацыі валюты, арганізацыі крэдытаў і г. д. зьяўляюцца надта актуальнымі, іх нельга вырашыць галасаваньнем на зьездзе сяброў партыі, або мітынговымі прамовамі...

Эўропа не страціла увагі да экспэрымэнтаў камуністаў і зорка сьлядзіць за імі ўжо другі раз. Але яна страціла страх ў выбойную сілу камуністычнай думкі як убачыла, што здейсьненьне гэтае думкі залежыць ад волі і цярплівасьці тых людзей, на целе якіх робяцца экспэрымэнты і ад капіталістычнай Эўропы.

**Занеманец.**

*) Ня гледзячы, на тое што іншыя дзяржавы плацяць перадваенныя даўгі, а С.С.С.Р. — не. Рэд.

*) Датычыцца. Латвіі, Літвы і Эстоніі. Гэтакжа зроблена і з Грузіяй.

**) Салаўкі — савецкі востраў, большавіцкая турма.

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Працэс б. пасла В. Рагулі.

(канчатак).

Пасьля перарыва слова даецца **пракурору.**

Пракурор пачаў сваю прамову з таго, што прачытаў тэкст прысягі, якую даюць пры адчыненьні парляманту ў Польшчы паслы і сэнатары, — у тым, што яны павінны „pracować wyłącznie na dobro Państwa Polskiego, jako całości". I вось, гавора пракурор,—гэтай прысягі Рагуля ня выпаўніў, бо стаў працаваць проціў Польшчы.

Пракурор ставіць далей пад запытаньне і самую „беларускасьць" Рагулі. Хто такі Рагуля, — пытаецца ён? Гэта тыповы расейскі сярэдні інтэлігент, які атрымаў расейскую адукацыю і расейскае выхаваньне, а цяпер зрабіўся „Беларусам", ле не дзеля сваіх нацыанальных пераканаhьняў, а толькі з тэй мэтай, каб пад маскай беларускасьці больш шкодзіць Польшчы. Усю палітычную працу Рагулі ён называе „духоўным жанглёрствам" (фокусьніцтвам). Такім жанглёрствам,—цьвердзіць пракурор, — была і яго прамова на Замку ў Наваградку.

Пракурор згаджаецца з тым, што сьведкі ня дужа моцна сцьвердзілі, быццам Рагуля казаў зусім не плаціць падаткі. Можа ён гэтых слоў і не гаварыў. Ён. відаць, сказаў так: „вы *ведаеце самі*, што я не магу вам гаварыць, каб вы не плацілі падаткаў", але, як палітычны жанглёр, мог сказаць гэта такім тонам, каб усе зразумелі, што плаціць ня трэба і нават закрычалі: „ведаем, ведаем!"

Так сама ён мог проста і не казаць аб аддзяленьні Беларусі ад Польшчы і далучэньні да Саветаў, але, калі гаварыў аб „помачы ад закардонных братоў", ён мог паказаць рукой на ўсход, а Наваградчына сама добра ведае, у якой старане ад Наваградка знаходзіцца бальшавіцкая савецкая дзяржава.

Імкненьне Рагулі падгаварываць Беларускі Народ да адарваньня Беларусі ад Польшчы выявілася і ў яго вокрыку: „няхай жыве Незалежная Беларусь". Гэты вокрык мог-бы і ня мець таго значэньня, але трэба памятаваць, што гэта быў не які дыспут (спор) науковы, а прамова да вялікай таўпы на прасторным пляцу, і дзеля гэтага гэты вокрык народ мог зразумець як прызыў да адарваньня.

У кожным разе, варожае становішча Рагулі да Польшчы і палякаў выявілася ў яго прамове дужа выразна. Палякаў у гэтым краю ён уважае за „przybyszów" (прышэльцаў) і, хоць ён і не нагаварыў проста біць ці паліць асаднікаў, але гаварыў аб іх так востра, што прамова яго мела значэньне падбурэньня беларускага насяленьня проціў польскага.

Першым з абаронцаў гавора адвакат **Чэрніхаў.**

Чэрніхаў уперад за ўсё адзначае зусім неправідловае стараньне пракурора зрабіць з Рагулі маленькага нязначнага чалавечка, „сярэдняга расейскага інтэлігента", які зусім выпадкова недзе сказаў якуюсь няўдалую, але шкадлівую пля дзяржавы, прамову. Гэта зусім ня праўда! Рагуля гаварыў у маі месяцы ў Наваградку прамову не як звычайны абывацель, а *як пасол Беларускага Народу*, і ня толькі пасол, але і *старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу*. На пасла яго выбраў Беларускі Народ, а на старшыню клюбу,—яго сябры паслы і сэнатары. З гэтага відаць, што гэта чалавек, меўшы ўплывы і карыстаўшыся з пашаны сваіх сяброў, дзеля чаго і гэты судовы працэс ёсьць ня проста працэс Рагулі, але працэс *былога старшыні Беларускага Пасольскага Клюбу*. Ён гаварыў, ведаючы, што ён адпавядае за кожнае сваё слова.

Пракурор змагаецца адказаць, што Рагуля нагаварываў народ да адарваньня Беларусі ад Польшчы. З браку довадаў пракурор нават ня ўстрымаўся рабіць свае асабістыя „прыпушчэньня", быццам Рагуля рукой паказываў на ўсход, адкуль ён чакаў помачы. Нам-жа ня трэба гэтых прыпушчэньняў, бо з паказаньняў саміх сьведкаў відаць, што гэтага ён ня рабіў. Увесь сэнс яго пра-

мовы быў у тым, што *ніхто Беларусам не паможа*, што ім трэба *самім* арганізавацца, як гэта робяць розныя народнасьці ў Заходняй Эўропе. У гэтым сэнсе ён прытачыў і вядомыя радкі з рэвалюцыйнай песьні: „*Никто не даст нам избавленія* ни царь, ни раб и не герой, Доб'емся мы освобожденія *своею собсвенной рукой*". (Хто „герой нашага часу— ўсім добра ведема).

У чым-жа ўважаў Рагуля той спосаб, якім ён хацеў дабіцца асвабажджэньня? Як паказалі некаторыя сьведкі,—у легальнай арганізацыі Беларускага Народу на падобіе таго, як гэта рабілася ў Заходняй Эўропе. Бліжэйшай мэтай гэтай арганізацыйнай працы была ў яго, як відаць з паказаньняў сьведкаў, нават сьведкаў абвінавачаньня,— аўтаномія Беларусі. Калі-б нават Рагуля і закрычэў: „няхай жыве Незалежная Беларусь", дык у гэтым вокрыку нічога праступнага няма, але-ж нават і тут большасьць сьведкаў сцьвердзіла, што ён закрычаў: „няхай жыве Беларускі Народ".

Напрасна Рагулі закідаюць, што ён гаварыў аб тым, каб не плацілі падаткі. З браку довадаў пракурор і тут выстаўляе толькі свае „вывскі" і „ашыпушчэньня",—што ён гэта сказаў „такім тонам, каб было відаць, што плаціць ня трэба". З паказаньняў сьведкаў відаць, што ён толькі стараўся высьніць народу аб тым, якія ёсьць законы аб падатках, (што ня можна прадаваць астатнюю карову, ня можна браць падаткаў зямельных з сусім малых гаспадарак), бо ўсе ведаюць, што на гэтым грунце ёсьць дужа і дужа надужыцьцяў. А калі Рагуля гаварыў, што падаткі надта высокія, што замнога войска, замнога паліцыі, дык—знайдзіце-ж мне такога пасла Сойму на ўсей Польшчы, які-бы гэтага не гаварыў на мітынгу?

На канцы адв. Чэрніхаў адзначае, што пракурор надужыў сваё палажэньне ў судзе, каб абразіць абвінавачанага, назваўшы яго палітычным жанглёрам. Можна абвінавачываць, але ня можна абражаць. Жанглёрства пракурор хоча відзець перадусім у тым, што Рагуля „ня выпаўніў сваей пасольскай прысягі", — што ён не працаваў „на дабро польскае дзяржавы". Але-ж я запытаюся,—гавора Чэрніхаў,—што такое „дабро дзяржавы"? Ці-ж мы мусім абавязкава разумець яе так, як разумее пракурор? Няхай пракурор успомніць, што было ў Варшаве каля двух гадоў таму назад у маі месяцы, калі там на вуліцах грымелі арматы. Кожная старана па свойму разумела „дабро дзяржавы". Маршалак Пілсудзкі яго разумее па свойму, эндэція па свойму, „Пяст" па свойму, „Вызваленьне" па свойму і г. д. А Рагуля таксама мае права разумець па свойму і ён разумее, што, калі ў склад Польшчы ўвайшла значная частка беларускіх земляў і Беларускага Народу, дык „дабро Польскае Дзяржавы „jako całości" ня можа быць дасягнута датуль, пакуль не здабудзецца „дабро" і таго Беларускага Народу, які ўвайшоў у склад гэтай дзяржавы.

На падставе ўсяго гэтага адвакат Чэрніхаў дамагаецца поўнага апраўданьня Рагулі.

Пацьвердзіўшы тыя доводы, якія прывёў Чэніхаў, адвакат **Сьвірыд** звавачывае ўвагу суда на тое, што Рагуля гаварыў народу аб аўтаноміі Беларусі. Ведама, што ў тыя часы як раз справа магчымасьці аўтаноміі Беларусі абгаварывалася ў кругох і сэймовых і нават урадавых. Ведама і тое, што ідэя аўтаноміі як раз выяўлялася як ідэя процілежная адарваньню Беларусі ад Польшчы. Ужо адно гэта паказывае, што Рагуля ня мог прапаведываць разам і тое, і другое. Ён зварачывае ўвагу суда і на тое, што ў гэтыя часы як раз адбываецца ў Вільні судовы працэс проці так званай работніцка-сялянскай „Грамады". „Грамадзе" таксама закідаюць імкненьне да адарваньня Беларусі ад Польшчы і далучэньня яе да „Саветаў". Усім добра ведама, што Рагуля як раз належыў да абоза процілежнага „Грамадзе", дык як-жа можна Рагуле закідываць тое, што нават і адносна да „Грамады" яшчэ ня выясьнена судовым працэсам.

Няма дзіўнага, што Рагуля гаварыў востра аб школах, аб падатках, аб асадніцтве, бо гэта найбольш балючыя для беларускага народа справы, але ня можна закідаць яму таго, чаго ня было, бо з паказаньняў сьведкаў відаць, што ён зусім ня нагаварываў да неплачэньня падаткаў, ці да ненавісьці да асаднікаў, але гаварыў аб надужыцьцях, якія робяцца ў справе падаткаў і аб асадніцтве як шкадлівай палітыцы ня толькі

для Беларусі, але і для самой Польшчы, бо самая гэтая палітыка сее ненавісьць паміж Беларусамі і Палякамі.

Адв. Сьвірыд зварачывае ўвагу і на тое, што, як сьцвярдзілі ўсі сьведкі, у час прамовы Рагулі народ заховываў поўны спакой, а паліцыя, якой было там шмат, пачынаючы з самага начальніка, ня ўменшывалася і не перашкаджала ходу мітынга.

З гэтага відаць, што прамова ня мела такога падбурываючага і антыпанствовага характара, які ей хоча даваць пракурор, бо тады і народ не астаўся-б так спакойны і паліцыя зачыніла-б мітынг.

На падставе гэтага, адв. Сьвірыд дамагаецца ад суда апраўданьня В. Рагулі.

Астатнім выступае адв. **Аляксюк.** Падтрымліваючы довады папярэдніх прамоўцаў, ён між іншым падкрэсьлівае пытаньне аб незалежнасьці. Імкненьне да незалежнасьці, нават гутарка аб ёй і прызыў да яе, як да астатняга найвышэйшага ідэала палітычнага істнаваньня кожнага народа ня ёсьць праступленьне проціў лёяльнасьці. Ён прытачывае прыклады таго, як сярод культурных народаў Эўропы нацыянальныя меншасьці маюць права зусім адкрыта гаварыць аб сваей незалежнасьці, як аб той будучыні, да якой яны імкнуцца і нават у прысутнасьці ўраду выкрыківаюць адпаведныя лёзунгі *) Дзеля чаго і выкрык Рагулі, каліб ён нават і ўзапраўды закрычаў: „Няхай жыве незалежнае Беларусь!“ ня мае ў сабе прызнакаў праступленьня.

Не было ў прамове Рагулі і таго падбурэньня насяленьня якое хоча яму прыпісаць пракурор. Калі-б узапраўды гарачая прамова Рагулі да народа мела такое значэньне, дык яна бязумоўна адбілася-б як небудзь у гэтым кірунку на настроях народа, але-ж мы відзім, што народ ня толькі тады астаўся спакойным, але і скора пасьля гэтага, калі ў Навагрудак прыехаў прэзыдэнт, прыняў учасьцьце ў яго ўрачыстым спатканьні.

Рагуля гарачы нацыяналіст і барацьбіт за свабоду і дабрабыт свайго народу, але зусім ня прыхілнік далучэньня Беларусі да „С. С. С. Р.“. Гэта паказала ўся далейшая праца Рагулі і было-б вялікай няспраўядлівасьцью, засуджэньне Рагулі і вялікай амылкай у працы „na przyszłość“, на будучыню, бо гэтае асуджэньне налажыла-б новую перашкоду да магчымага зьбліжэньня паміж Беларускім і Польскім Народам.

Прэзэс суда дае голас для „астатняга слова“ **В. Рагулі.**

Рагуля ўперад за ўсе горача пратэстуе проціў слоў пракурора, які карыстаючы сваяго палажэньня ў судзе, абразіў яго, назваўшы яго „палітычным жанглёрам“. Няхай сабе ён атрымаў расейскую адукацыю,—ён і цяпер не жаліцца на яе, але і тады, у той час, ён быў сьвядомым беларусам, горача любіў свой народ і працаваў на яго дабро. Ён прыймаў удзел на зьезьдзе ў Смаленску, ён сядзеў у турме за беларускую справу, ён і тады шчыра і адкрыта выказываў свае пераконаньні.

У сучасным палітычным беларускім руху ён заняў палажэньне *цэнтра* і, як гэта за ўседы бывае з тымі, хто знаходзіцца ў цэнтры, яму прыходзіцца цярпець і злева і справа. Польскі суд закідвае яму быццам ён хоча далучыць Беларусь да Саветаў, а левы беларускі лагер,—што ён быццам на польскія грошы накупляў маёнткаў. І тое і іншае няпраўда. Ён арыентаваўся не на Польшчу і не на саветы, а толькі на адно,—на свой Беларускі Народ, якому заўсёды служыў шчыра і адкрыта.

Далей Рагуля хоча перайсьці да разгляданьня паасобных пытаньняў. Прэзэс ня хоча яму даць гаварыць аб гэтым:

— Pan będzie powtarzać się. O tym już mówili pańskie obrońcy.

— Пане прэдседацель! Калі я буду паўтарацца, Вы маеце права мяне астанавіць, нават і зусім ня даць слова, але дазвольце-ж мне ня палагацца толькі на адных абаронцаў, бо сядзець у турме будуць не яны, а я.

Прэзэс дае слова.

Рагуля сцьвярджае, што ён зусім не нагаварываў да далучэньня Беларусі да С.С.С.Р., бо ён ёсьць прыхільнік ідэі незалежнасьці Беларусі,—што аднак сваю прамову ён закончыў вокрыкам: „няхай жыве Беларускі Народ!“, што

*) У Вільні, кожны год 25 сакавіка, Беларусы сьвяткуюць з дазволу Польскай Улады, урачыстае абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Рэд.

ён гаварыў проці асадніцтва як палітыкі польскага ўраду, а ня проціў асаднікаў. Адзін з сьведкаў, якія тут былі на судзе ёсьць такі асаднік, але-ж ён ня выявіў ні варожага становішча да да Рагулі, ні якой небудзь абразы на яго прамову. Аб падатках ён сказаў у адказ на выкрык з таўпы, напэўна якога правакатара: „ці плаціць падаткі?“ і адказаў: „няўжо-ж вы хочаце, каб я сказаў, што падаткаў плаціць ня трэба?“, але я кажу не аб тым, каб не плаціць, а аб тым каб на гэтым грунце ня было якіх надужыцьцяў.

На рэшце Рагуля ўспамінае той час, калі ў 1922 годзе яго прасілі паставіць сваю кандыдатуру ў Сойм. Цэлую ноч ён думаў аб гэтым, бо ведаў што пасольства гэта не бязпечная рэч. Але любоў да свайго народу, імкненьне працаваць, перамаглі ў ім любоў да сваей сям'і, і ён на новыя прозьбы рашыўся. Цяпер паўстаў час расплаты за гэтае рашэньне. Гэтая расплата будзе сяньня, але для яго яшчэ важней тое, якая расплата будзе для яго 11-га сакавіка. Які бы ні быў і той і другі вырак, ён прыйме яго спакойна.

Суд пасьля нарады прызнаў Рагулю вінаватым па ўсім стацьцям (пераважна па 129, п. 1, 3 і 6) і засудзіў яго на два гады цяжкой турмы.

Пракурор патрэбаваў дастасаваньня да Рагулі „środków zapobiegawczych“.

Абарона просіць суд аставіць Рагулю да аканчальнага рэшэньня суда на волі. Ужо чатыры гады прайшло, як ён сказаў прамову. За гэты час ён і ня падумаў куды бегчы, быў на свабодзе і дабравольна з'явіўся ў суд. На рэшце ў яго ёсьць кавалак зямлі, які суд можа ўзяць пад каўцыю.

Суд згадзіўся з прапазыцыяй пракурора і пастанавіў дастасаваць да Рагулі арэшт.

Паліцыя прывінціла багнэты да вінтовак, і Рагулю павялі ў турму.

**Сьведка.**

# Падзел пасольскіх мандатаў.

15 сакавіка Галоўная Выбарная Камісія аканчальна падзяліла пасольскія мандаты з акружных і дзяржаўных сьпіскаў.

Згодна гэтага падзелу атрымалі:

| | З акр. сьпіску манд., | З дзярж. | Разам. |
|---|---|---|---|
| Сьпісак № 1 (Прыурадавы Блёк) | 102 | 23 | 125 |
| „ № 2 (П. П. С.) | 52 | 12 | 64 |
| „ № 3 (Вызваленьне) | 34 | 7 | 41 |
| „ № 7 (Нар. Раб. Партыя—правіца) | 9 | 2 | 11 |
| „ № 8 (Сель.-Роб. правіца | 4 | — | 4 |
| „ № 10 (Stron. Chłopskie) | 21 | 4 | 25 |
| „ № 13 (Раб.-Сял. Еднасьць) | 5 | — | 5 |
| „ № 14 (Związek Chłopski) | 3 | — | 3 |
| „ № 17 (Галіцыйскія жыды) | 6 | — | 6 |
| „ № 18 (Блёк Нац. Менш.) | 45 | 10 | 55 |
| „ № 19 (Сел.-Роб. лявіца) | 3 | — | 3 |
| „ № 20 (Расейцы) | 1 | 1 | 1 |
| „ № 21 (Нар. Раб. П.—лявіца) | 4 | — | 4 |
| „ № 22 (Укр. Сацыял. партыя) | 8 | 1 | 9 |
| „ № 24 (Кат. Нар. Блёк) | 31 | 7 | 38 |
| „ № 25 (Пяст і Х.-Д.) | 28 | 6 | 34 |
| „ № 26 (Укр. партыя працы) | 1 | — | 1 |
| „ № 30 (Катал. гаспад. унія) | 3 | — | 3 |
| Розныя мяйсцовыя сьпіскі | 12 | — | 12 |
| Усяго мандатаў | 372 | 72 | 444 |

# Працэс „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады“.

(працяг).

У працягу гэтых дней з перарывам на час выбараў, ад 3 да 12 сакавіка, быў прачытаны акт абвінавачаньня.

Канчаткавая часьць акту абвінавачаньня, якая чыталася ў чацьверты дзень працэсу, агаворвала акцыю „Грамады“ на абшарах паветаў: Слонімскага, Дзісьненскага, Вялейскага і Лідзкага, справу Куліны-Кулінoўскага, абвінавачанага ў шпіёнстве і справу забойства Івашкевіча, канфідэнта палітычнай паліцыі.

У агульных вывадах пракуратура абвінавачвае:

1) усіх 56 абвінавачаных у тым, што ў часе ад 1926 году да паловы студзеня 1927 году бралі ўдзел у змове пад назовам „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“, маючы на мэце даканаць замах на дзяржаўны лад Польшчы, такжа на цэласьць яе тэрыторыі шляхам увядзеньня дыктатуры пралетарыяту, савецкага ладу і адарваньня ад Польшчы, пры помачы ўваружанага паўстаньня, паўночна-ўсходніх ваяводзтваў і далучэньня іх да Савецкай Расеі, пры чым для зьдзейсьненьня гэтай мэты мелі склады аружжа;

2) апрача гэтага, пракуратура вінаваціць Тарашкевіча, Рак Міхайлоўскага, Валошына, Мятлу, Астроўскага, Бурсэвіча, Акінчыца і Шнаркевіча ў тым, што ў працягу 1925, 1926 і студзеня 1927 г., будучы польскімі грамадзянамі, далі забавязаньне савецкаму ўраду аказаць праз сябе і ўсіх учасьнікаў вышэй апісанай змовы збройнай помачы ўва ўсіх яе ваенных чынах проці Польшчы, на выпадак вайны паміж гэтымі дзяржавамі;

3) Куліна-Кулінoўскага ў шпіёнскай акцыі, які нібы-та даваў інфармацыі савецкай камэндатуры ў Слабодцы аб лічэбным стане і разьмяшчэньні атрадаў польскага войска і пастарункаў паліцыі на савецкай граніцы;

4) С. Казачонка, М. Кавалёва, Н. Кавалевіча і М. Карніловіча пракурат. вінаваціць у забойстве канфідэнта палітычнай паліцыі—Івашкевіча.

Ніхто з абвінавачаных да віны, якую ім закідваў акт абвінавачаньня, ня прызналіся.

Старшыня Суду **Аўсянка** перад тым, як даць слова абвінавачаным для выясьненьняў, зьвярнуў увагу абвінавачаных, каб яны адказвалі папольску дзеля таго, што некаторыя адвакаты не разумеюць пабеларуску.

Першым даў выясьненьне **Тарашкевіч** і зазначыў, што ён, у выніку розных прычынаў, будзе гаварыць пабеларуску, хоць і можа папольску. Тарашкевіч у сваім выясьненьні зазначыў, што „Грамада“ была праўнаю арганізацыяю, дзейнасьць яе месьцілася ў рамках Канстытуцыі і мела мэтаю падняцьце культуры і дабрабыту беларускіх масаў, і што дзяржаўнае жыцьцё Польшчы змушае тварыць партыі, без каторых няма магчымасьці працаваць.

**Рак-Міхайлоўскі** абураецца проціў назову адносна яго ў акце абвінавачаньня „абрусіцель“. Зазначае, што ён зьяўляецца тварцом беларускага школьнага руху, а не абрусіцелем.

**Мятла і Валошын** дадуць выясьненьні пасьля.

**Астроўскі** цьвердзіць, што на спэкуляцыі ў часе нямецкай акупацыі не збагаціўся.

**Акінчыц** цьвердзіць, што сядзіць у вастрозе другі год нявінна.

**Шнаркевіч**—працаваў на культурна-прасьветнай ніве.

**Коўш** заяўляе, што ён ніколі палітыкаю не займаўся і вёў гаспадарчую працу, за што ня можа быць караны.

**Луцкевіч** — яго прозьвішча зьвязана з беларускім рухам, якога ён быў піянэрам 25 гадоў таму назад. Меў выбітныя становішчы, як у Беларускім Урадзе і ў Міжнароднай Канфэрэнцыі ў Парыжу. Сядзеў у расейскіх вастрогах. Не кандыдаваў у Сойм у 1922 годзе па слабасьці здароўя. Ад 1923 году адыходзіць ад грамадзка-палітычнай працы і аддаецца працы публіцыстычнай. „Гра-

мадою" не кіраваў. За чужыя плечы не хаваўся.

**Клаўдзя Гоцко** — адзіная кабета ў гэтым працэсе—была сэкрэтаркаю аднаго з камітэтаў „Грамады", але не агітавала за зачыненьне польскіх школаў.

**Якімовіч**—вёў культурна-прасьветную працу, каб дапамагчы зьніштожыць антаганізмы, якія дзеляць польскі і беларускі народы.

**Баліцкі**—іронізуе і гавора, што Беларусаў падводзяць пад бальшавікоў, можа дзеля таго, што абодва словы пачынаюцца з аднэй літары.

**Калпак**—у „Грамадзе" камуністычнай работы ня было.

**Патоцкі**—ніколі не хваліў савецкіх парадкаў, будучы-ж у крытычным матэрыяльным палажэньні стараўся заложыць школу, каб астацца ў ёй вучыцелем.

**Якубчык**—ніколі не належаў да К. П. З. Б.

**Суўкіля** просіць звольніць яго з вастрогу, бо ён—100% інвалід.

**Варанковічы** цьвердзяць, што ніколі не належалі да „Грамады".

**Даніловіч** vel **Кулага** просіць вычыркнуць яго псэўданім.

**Каліна-Каліноўскі** запярэчвае закіды акту абвінавачаньня аб шпіёнстве.

**Карніловіч** расказвае аб забойстве Івашкевіча, з якога вынікае, што Івашкевіч у часе п'янства сам перавярнуўся на падлогу і разьбіў сабе голаву.

Іншыя абвінавачаныя будуць даваць выясьненьні пры дапросе сьведкаў.

На пяты дзень (28 лютага) пачаўся дапрос пракурорскіх сьведкаў.

Першым дае паказаньні былы начальнік Акружнага Сьледчага Ўраду ў Беластоку —

**Ясінскі Мар'ян.** Ён гавора, што пасьля арыштаваньня Ц.К.К у Беластоку, стварылася новая „пяцёрка" ў Вільні з Тарашкевіча, Цьветкова, Каплана, Бабровіча і Марцінчыка. У гэтым часе быў арыштаваны Міхал Гурын, каторы пажадаў даць рэвалядыйныя інфармацыі. Пракуратура паслала ў вастрог яго, Ясінскага, каторому Гурын выясьніў:

Пасьля II зьезду камуністычнае партыі ў Маскве пастаноўлена выкарыстаць нацыянальныя меншасьці ў Польшчы для масавай працы. Бачачы, што сялянства неахвотна адносіцца да канспірацыйнай працы, пастаноўлена стварыць легальныя партыі, як: NPCh, Б. С.-Р. Г. і PPS-лявіца, у каторых кіраўніцтва занялі-б людзі верныя Комінтэрну. На канфэрэнцыі ў Данцыгу высунута Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлу і Валошына для працы ў „Грамадзе", якія забавязаліся вясьці працу згодна інструкцыяў з Масквы і не перашкаджаць NPCh. Астроўскі быў лучнікам з "Крэстінтэрнам" і атрымліваў для Банку грошы ад Баліна ці Ульянава. Валошын быў кіраўніком дзейнасьці МОПР-у.

Характарызуючы асобных дзеячоў Ясінскі адзначыў, што на мітынгах Валошын гаварыў падбураючыя мовы проціў ураду Пілсудзкага. „Права трэба браць самім, а не чакаць" — заклікаў Валошын. У Лунне пад уплывам агітацыі пробавана разаружаць паліцыю. У гэтай працы бралі ўдзел: Міхайлоўскі, Рагуля, Балін і Сабалеўскі. Тарашкевіч кіраваў усім рухам. (Працяг будзе).

**Сьведка.**

## ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Праваслаўная Духавенства на жалаваньні.** Міністэрства Вызнань рэлігійных вызначыла пастаяныя аклады жалаваньня духавенства, якія будуць выплачывацца ад 1 га наступнага красавіка.

Гэта жалаваньне будуць выдаваць старарства па гэтакім нормам.

Усе прыходы дзеляцца на 4 катэгорыі па ступені матэрыяльнага дабрабыту, прычым да 1-е катэгорыі адносяцца тыя, якія маюць даходу ў год толькі 1000 зл. да другой - 2000, да 3-й 3000, да 4-й – больш 3000. Стасоўна да гэтаго будзе выдавацца ў месяц па 1-й катэгорыі сьвяшчэнніку настаяцелю 70, філіальному ці другому сьвяшчэнніку 55 зл, дьякану 30, псаломшчыку 20 ; па другой нормы 55, 40, 25, 15 і 10.

Даходы будуць дзяліцца так: настаяцель 3 часьці, другі сьвяшчэньнік 2, дыякан $1^1/_2$, псаломшчык 1.

**Праваслаўная царква у Румыніі.** У астатнія часы Румынскім Урадам выпрацаван статут аб палажэньні праваслаўнай царквы у Румыніі. Зьмест гэтага статуту нам яшчэ не вядомы, але відаць там ёсьць нешта уемная для царквы, бо патрыарх Мірон падаў протэст проці гэтага статуту і зьбіраецца у гэтым годзе склікаць Сабор Румынскай царквы для рашэньня гэтага пытаньня. Цікава,—калі толькі целеграфнае агенства „Пат" перадае праўду,—што адначасна з гэтым у Семіградскай абласьці Румыніі уніаты дэманстратыўна протэстуюць проці „прывілегіёванага" палажэньня праваславія. Пад час адной такой дэмонстрацыі дайшло да стычкі з войскам, пры чым быў адзін уніатскі сьвяшчэньнік забіты, а 14 ранена.

**Адстаўка Рэктара Валынскай сэмінарыі.** У час астатняй сэсіі Сынода былі разгледжаны пастуціўшыя на імя мітр. Дыонісія ад яп. Пімена (з Савецкай Украіны) данныя аб тым, што займаючы должнасьць рэктара Валынскай Сэмінарыі прат. П. Табінскі быў пазбаўлены еп. Пімінам сьвяшчэннага сана (перад прыездам у Польшчу ён быў на Савецкай Украіні і тагды быў падпарадкаван еп. Пімену).

Сінод пастанавіў разсьледаваць справу, а пакуль яна яшчэ не вырашана, даць Табінскаму іншую должнасьць, —меней адказную.

*Увагі Рэдакцыі:* 1) Мітрапаліт Дыанісі ужо даўно ведаў аб тым, што прат. Табінскі „запрещен в священнослужении" і заведама такога, наперакор канонам, прыняў у клір. Гэта яму закідаў яшчэ у 1921 годзе арх. Елеўферы і па даручэньню усіх архіерэяў у Польшчы пісаў яму „увещательное пісьмо", якога аднака ён не паслухаўся. Карлавацкі сабор за гэта назваў м. Дыанісія у сваім мэмарыяле „учителем безчинія".

2) Дзіўна, што Сінод, даведаўшся аб гэтым, перавёў яго на іншую *должнасьць*. Пры чым тут должнасьць? Рэктарам Табінскі мог-бы быць, калі-б нават весткі аб ім былі і справядлівыя, бо гэты абавязак можна выпаўняць і без сану, а вось як-жа быць з тым, што ён адпраўляе багаслужэньне і таінствы! Гэта-ж бяз сана здаецца ня можна?

## Палітычная хроніка.

**Прадаўжэньне польска-літоўскага канфлікту.** 5-га сакавіка генэральны савет Лігі Нацыяў адаслаў Вальдэмарасу тэле граму, у якой прапануе яму даць сваю апінію адносна да перагавораў паміж Літвой і Польшчай і заклікае яго ці прадстаўнікаў літоўскага ўраду ў Жэнэву на сэсію Лігі Нацыяў. Вальдэмарас адмовіўся ад абгаварываньня літоўска польскага канфлікту ў Лізе Нацыяў, бо ўжо няма часу да падгатоўкі, але згаджаецца на перагаворы ў Кенігсбергу 30-га сакавіка. Апрача польскіх і літоўскіх прадстаўнікоў там будзе прадстаўнік і Лігі Нацыяў—галандскі міністар Блёкланд. Вальдэмарас заявіў, што ад Літоўцаў будзе ён сам. Склад польскай камісіі будзе такі: міністар А. Залескі, А. Тарноўскі, Т. Галуўко і Шмулякоўскі.

**Канфлікт паміж Нямеччынай і С. С. С. Р.** узьнік зусім нясподзявана. Повадам да гэтага сталіся розныя гаспадарчыя непарадкі і надужыцьці, якія знойдзены ў Данецкіх каменнавугальных капальнях. Бальшавіцкая ўлада знайшла, што прычынай гэтых надужыцьцяў быў контр-рэвалюцыйны загавор з удзелам нямецкіх інжынэраў, працаваўшых у Данецкіх капальнях, якія нібы наўмысьлі тварылі сабатаж і рабілі надужыцьця, каб выклікаць гэтым непакой і незадаваленьне сярод рабочых кругоў проціў савецкай улады. Бальшавікі арыштавалі нямецкіх інжынераў. Гэта выклікала вялікае абурэньне ў Нямеччыне, якое пагражае папсаваць напярэднія добрыя адносіны яе да С. С. С. Р.

Англія зорка наблюдае за канфліктам. У палітычных сфэрах яе разглядаюць гэты канфлікт як пачатак радыкальнай зьмены ў адносінах паміж С.С.С.Р. і Нямеччынай.

**Англія і С. С. С. Р.** У сувязі з адстаўкай англійскага міністра Грэгры, які падпісаў Саветам вядомую ноту з повадаў раскрыцьцяў у перахопленым англійцамі пісьме вядомага бальшавіцкага камісара Зіноўева (Апфельбаума), узноў

паднялiся чуткi аб магчымасьцi зблiжэньня памiж С. С. С. Р. i Англiяй. Але Чэмбэрлен у англiйскай палаце абшчын заявiў, што англiйскiй урад ня зробiць у гэтым напрамку анi воднага кроку, пакуль С. С. С. Р. не адменiць маналь „внешторга".

У вышэй успамянутым пiсьме Зiноўева знаходзяцца данныя, з якiх вiдаць, што С. С. С. Р. праз сваю агентуру падгатаўляла ў Англii паўстаньне i ўнутраньнюю вайну. Цяпер выясьняецца, што копiю гэтага пiсьма выдаў адзiн з сябраў камунiстычнай арганiзацыi Англii.

**Пытаньнi аб школах для меншасьцяў на мiжнародным трыбуналi.** Мiжнародны юрыдычны трыбунал прыступiў да разгледжываньня жалабы нямецкай нацыянальнай меншасьцi ў Верхнiм Шлёнску аб школах для меншасьцяў. Старшынёй трыбуналу—iгальянец Анчылёцьцi. Судзьдзi: з польскага боку граф Раствароўскi, з нямецкага—Шэйкiн.

**Зьнiштажэньне „вiзаў"**. Латвiйскi ўрад нядаўна прыняў прапазыцыю Нямеччыны аб зьнiштажэньнi вiзаў памiж Латвiяй i Нямеччынай.

**„Разаружэньне"**. 11-га сакавiка ў Нямеччыне спусьцiлi на ваду чатыры новых мiнаносцы: „Цiгр", „Рысь", „Ягуар" i „Леапард".

У Iталii ў гэтым годзе будуць збудаваны два крэйсеры па 10.000 тон, 4 мiнных iстрэбiцелi, 4 падводныя лодкi.

У Англii: 2 крэйсеры па 8000 тон, 8 мiнаносцаў, 6 падводных лодак, 1 кананерка i г. д.

Гэта якраз у тым часе, калi ў Жэнэве працуе „камiсiя па разаружэньню".

**Хлеб у Сiбiры.** З савецкiх газэтаў вiдаць, што ў Сiбiры, на грунце савецкiх хлебазагатовак, узьнiклi беспарадкi. Сiбiрскiя сяляне адмаўляюцца плацiць сялянскi налог i прыймаць як плату за хлеб „аблiгацыi сялянскага займа". Хлебазагатоўкi пасуваюцца слаба. Савецкая ўлада забаранiла вываз хлеба ў Мангодiю, але гэта мала памагае справе. „Кулакоў" арыштоўваюць.

**Сьмертныя прыгавары ў Польшчы.** 13-га сакавiка суд прысяжных у Львове прыгаварыў за забойства папячыцеля львоўскага вучэбнага вокругу Сабiнскага i за здраду i шпiонства на кару сьмерцi Васiлiя Атамчука i Яна Вярбiцкага. 8 чалавек засудзiў па тойжа справе ў турму, а 7 апраўдана.

У гэты самы дзень у Быдгашчы засуджаны на кару сьмерцi 28 летнi рабочы Бранiслаў Сконецол за забойства дзьвёх старух. Кара сьмерцi адбудзецца праз павешаньне.

# З беларускага жыцьця.

С. † П.

**Пётра Крэчэўскi.**

**Старшыня Рады Бел. Нар. Рэспублiкi**

Пасьля цяжкай хваробы памёр у Празi Чэскай 8 сакавiка 1928 г.

— **Звальненьне з вастрогу пасла Ярэмiча.** 17 г. сакавiка, увечары, звольнены з вастрогу на Лукiшках пад надзор палiцыi пасол Ярэмiч.

Пасол Ярэмiч прасядзеў у вастрозе амаль-што месяц. I цяпер, хоць звольнены, аднак-жа справа не скасавана... Знача, будзе над iм судовая расправа.

— **Забойства галоўнага сьведкi ў працэсе „Грамады" — Мiхала Гурына.** „Głos Prawdy" ў № 78 пiша, што 16 сакавiка ў аднэй з вiленскiх кавярняў 5 рэвальвэрнымi стрэламi быў забiты Мiхал Гурын — галоўны сьведка ў працэсе „Грамады". Гурын меўся сьведчыць у красавiку месяцы, паказаньнi яго былi-б вельмi важныя для справы. Спраўца забойства быў зараз-жа арыштаваны, пры iм быў знойдзены пашпарт на iмя Пякарскага.

У сувязi з забойствам у Вiльнi арыштавана некалькi чалавек, у тым лiку жонка б. пасла Тарашкевiча. Яна ўжо выпушчана на волю.

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. iм. Ф. Скарыны, Людвiсакая 1.